АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

20 - 26 ЛЮТАГА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
3000 РУБЛЁЎ
№ 8 (148)

ВІЛЕЙКА

## Падарожжа ў сацыялізм

У раёне на сацыялістычнае спаборніцтва не забыліся: прайшоў злёт передавікоў вытворчасці, бюджэтнай сферы. Палова з 300 удзельнікаў атрымала падарункі. Раённая Дошка гонару пакуль не аднаўляецца.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Па-англійску

У сярэдняй агульнаадукацыйнай школе мастацтваў адбыўся тыдзень англійскай культуры: выстаўка насценных газет, коміксаў і спектакль па казках Бісета, спартландыя ў англійскіх традыцыях і "Поле цудаў". Вучні паспыталі сябе ў прыгатаванні англійскіх страў, нават правялі выстаўку-продаж іх. Цікавым быў і конкурс вершаў. Завяршыўся тыдзень у дзень Святога Валянціна "англійскім перапынкам".

*Аксана ЖУРАЎЛЁВА.*

ВАЛОЖЫН

## Ранішні балет

Цяпер у рэстаране "Іслач" можна будзе не толькі выпіць, закусіць, але і паглядзець вар'етэ.

Заезджы "Кочетковъ балет" са сваёй праграмай "Паўночнае натхненне" падоўжыў работу рэстарана аж да 3 гадзін раніцы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

## Мэблю ў крэдыт

Райспажыўтаварыства праз сетку сваіх магазінаў аднавіла продаж тавараў у крэдыт. Цяпер за мэблю, будматэрыялы і іншыя дарагія рэчы можна будзе разлічвацца год.

Забытую форму продажу аднавіў новы старшыня таварыства **Мікалай Новік**, які прыехаў "на прырыў" з Гродзеншчыны.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МІНСК

## Сярод студэнтаў і навучэнцаў тэхнікумаў ёсць ВІЧ-інфіцыраваныя

***Сярод студэнтаў мінскіх ВНУ ёсць маладыя людзі, якія заражаны вірусам СНІДу. Па інфармацыі спецыялістаў Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу, ВІЧ-інфіцыраваныя ёсць сярод студэнтаў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і тэхнікумаў.***

У Мінску колькасць афіцыйна зарэгістраваных ВІЧ-інфіцыраваных студэнтаў складае шэсць чалавек, аднак, як паведаміла журналістам спецыяліст Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу **Наталля Фірсава**, на самой справе іх болей. Сёння большасць з выяўленых носьбітаў ВІЧ-інфекцыі з'яўляюцца шпрыцавымі наркаманамі.

Самай вялікай крыніцай небяспекі заражэння ВІЧ для дзяцей і падлеткаў з'яўляецца адсутнасць ведаў аб шляхах перадачы інфекцыі і навыкаў ацэнкі ступені рызыкі тых або іншых сітуацый. У часе нядаўняга сацыялагічнага апытання маладых людзей, праведзенага кафедрай сацыялогіі БДУ, больш як 90 % адказалі, што не бачаць для сябе небяспекі заражэння ВІЧ/СНІД. Таму цяпер Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу актыўна працуе з Міністэрствам адукацыі Беларусі, Дзяржаўным камітэтам па справах моладзі, Міністэрствам культуры. Толькі летась на прафілактычныя мэты цэнтр выдаткаваў 33 млрд. рублёў, з якіх толькі 1 млрд. рублёў выдзелены з дзяржбюджэту, а астатнія сродкі — спонсарская дапамога.

*Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.*

Павялічваецца колькасць школьнікаў з хворымі органамі стрававання

# Абед за 4 тысячы



2 разы на тыдзень на абед даюць катлету, рыбу або кілбасу. 1 раз - кашу і чай. Па пятніцах звычайна толькі чай з булкай. У сезон калі-нікалі бывае і салата.

ФОТА IREX

**ВІЛЕЙКА. Два гады таму ў СШ №5 было ўстаноўлена 11 хворых. Летась - 22. А сярод вучняў па горадзе за мінулы год - 300. І калі райвыканком паставіў на кантроль пытанне аб арганізацыі харчавання ў школах, у горадзе рашэнне пакуль не прынятае.**

**Дзеці ў гарадскіх школах харчуюцца бясплатна. На 4 дзяржаўныя тысячы ў дзень. Колькі ўрачы ні праводзілі размоў з бацькамі, родныя переважна не хочуць даплачваць дзецям на абеды. Таму і меню складаецца з улікам толькі датацыі дзяржавы.**

*Заканчэнне на 3-й стар.*

*Сапраўдная Амерыка*




## Welcome to Iowa

Супрацоўнік "РГ" вярнуўся са стажыроўкі ў ЗША. Маладзечанцы аказаліся першай групай з Беларусі, якая наведала гасцінную Аёву. З сённяшняга нумара пачынаем друкаваць нататкі аб Амерыцы, яе людзях. Такім чынам, запрашаем у Аёву, якая па тэрыторыі, насельніцтве, клімаце, занятках людзей падобная на нашу Беларусь.

*Працяг на 3-й стар.*



ДЗЕЛАВЫЯ ЛЮДЗІ

## Зефір у шакаладзе

***Не ведаю, як вам, а мне, часцей за якія-небудзь іншыя, на вочы трапляюць чатыры маладзечанскія фабрыкі. Па знешнім выглядзе першых двух можна ўпэўнена сказаць - гармонікі і трыкатаж нам болей не патрэбныя. Дзве другія знаходзяцца далей ад цэнтра горада. Але на іх пляцоўках ідзе будаўніцтва, адкрыты фірменныя магазіны. Гэта не выглядае простым выжываннем у "наш цяжкі час".***

Але не толькі аб гэтым мы павялі размову з **Маргарытай Карпенкай**, дырэктарам адкрытага акцыянернага таварыства "Канфа" (*раней - кандытарская фабрыка*).

***— Ходзяць чуткі, што фабрыка належыць нейкай расійскай ці фірме іншай замежнай краіны?***

— Не. Мы сталі акцыянерным таварыствам у 1995 годзе. У той час тры мінскія хлопцы наладзіліся купляць у жыхароў горада чэкі, каб пазней выкупіць акцыі нашай фабрыкі. Своечасова разабраўшыся, мы падалі ў суд і свае вярнулі. Цяпер 25% акцый - у дзяржавы, астатнія нашы. Мы атрымліваем дывідэнды, якія размяркоўваюцца паміж рабочымі. Я думаю, што ўсе задаволеныя.

***— Тое, што на паліцах не знікаюць пернікі, як некаторыя іншыя прадукты, само па сабе паказальна. Але ці можна назваць жыццё "Канфы" салодкім?***

— Старыя сувязі разарваліся. Мы вымушаны шукаць новых пастаўшчыкоў сыравіны - мукі, цукру, тлушчу, маргарыну. Усе патрабуюць папярэдняю аплату. А дзе знайсці грошы, калі гандаль не плаціць?



*Маргарыта Карпенка скончыла Маладзечанскі палітэхнікум, затым завочна Маскоўскі ўсесаюзны інстытут харчовай прамысловасці. Працуе на фабрыцы 26 год, 11 з іх - дырэктарам.*

ФОТА АЛЕГА ГУЛЕЦКАГА

Нават калі не лічыць пені і працэнтаў, нам завінавацціліся каля 10 мільярдаў рублёў. Напрыклад, Смаргонская міжрайбаза, скарыстаўшы момант,ператварылася ў нейкае іншае аб'яднанне, пахаваўшы са сваёй старой назвай немалы даўжок.

Многа прадукцыі адгружаем пакупнікам з паўночнага захаду Расіі. На бартэр з Санкт-Пецярбурга атрымліваем імпартныя араматызатары. Ёсць сувязі з фірмамі Ноўгарада, Выбаргу. Лініі працуюць на 70-80% ад сваёй магутнасці, гэта каля 4,5 тысяч тон ласункаў за год. У параўнанні з 95-м, калі было ўдвая меньш, відавочны ўздым, але хочацца разгарнуцца на ўсе сто!

***— Што робіцца, каб так і атрымалася?***

— Па-першае, будзем наладжваць лінію па выпуску зефіру. Па-другое, спадзяемся, што нешта вырашыцца з першай вафельнай лініяй. Яна хоць і нямецкая, але ад 80-га года сваё адпрацавала. Новая каштуе мільён долараў. Падстава для надзей - наш візіт на міжнародную кандытарскую выстаўку ў Кёльне. Мы завезлі свае вырабы і шукалі партнёраў. Знайшлі, і яны ў хуткім часе прыедуць да нас. Замежныя дзелавыя людзі ахвотна ідуць на кантакт. Але і там - грошы наперад!

Можа, іншае супрацоўніцтва з іншаземцамі будзе больш плённым. На памяць аб першым СП застаўся праект новага будынка канторы. Пачалі яе будаўніцтва. Колькі можна сядзець у маленькай драўлянай хатцы, дзе ў адным пакоі месціцца 5 аддзелаў? З'явяцца камп'ютэры.

Не прападзем. Куды прападаць з такімі людзьмі, як, скажам, майстры **Валянціна Ганчарэнка, Любоў Кісель**, галоўны інжынер **Галіна Курсакова**?

*Алег ГУЛЕЦКІ.*

ШТОТЫДНЁВІК

ЛЮТЫ 23 - САКАВІК 1

| Што зрабіць | Патэлефанаваць |
| --- | --- |
| Падпісацца на "Рэгіянальную газету" на бліжэйшай пошце. | 53841 даць аб'яву |
| | **Павіншаваць** |
| | Павіншаваць любімых жанчын з 8 сакавіка праз "РГ". |

СТАРЫ АЛЬБОМ



ФОТА З ФОНДАЎ ВІЛЕЙСКАГА ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ.

Вілейка пачатку 60-х гадоў. Аўтастанцыя (справа). Газетныя стэнды і афіша кінатэатра "Мір". Месца, дзе цяпер стаіць абеліск на плошчы Свабоды. Сфатаграфавана, хутчэй за ўсё, з пажарнай вежы. За двухпавярховым будынкам другой сярэдняй школы відно рэчышча Віліі, якое яшчэ не кранулі экскаватары, бульдозеры і песканамывальныя машыны. Жыхары ў зарэчанскіх Малюнах жывуць сабе спакойна і не ведаюць, што праз колькі часу ідылія суіснавання з прыродай скончыцца. Гэты від яшчэ могуць памятаць многія вілейчане. Наваттыя, каму ўсяго толькі сорак.

АДНАЎЛЕННЕ

# Ксёндз Леанід рэстаўруе святыню.

## І збірае архіў

*АСТРАВЕЦ. Часы, калі ўлады вялі барацьбу з касцёламі, царквамі, святарамі і вернікамі, прайшлі. Цяпер, замест разбурэння святыняў, іх аднаўляюць, рэстаўруюць ці, наогул, узводзяць новыя.*

Ксёндз касцёла Святой Тройцы, што ў Гервятах, быў накіраваны туды настаяцелем у 1996 годзе. Акрамя набажэнстваў у касцёле, ён задумаў і распачаў яго рэстаўрацыю. Спілавалі старыя ліпы, з дапамогай старшыняў калгасаў **Адахоўскага** і **Дарадося**, начальніка ДЭЦ-149 **Жыляка** і старшыні выканкома **Кудыркі** вакол касцёла заасфальтавалі дарожкі. Затым рэстаўратары з Ліды з мінулага лета і да восені займаліся галаўной вежай касцёла. Гэтай вясной вакол касцёла будуць пастаўленыя лавы і пасаджаныя кветкі.

Цяпер усе работы вядуцца ў сярэдзіне касцёла. Ужо замененыя лавы і амаль уся падлога. Пашыраецца прэзбітэрыя, дзе будуць пастаўленыя лавы для міністрантаў і гасцей, якія будуць на службах.

Апрача гэтага, у святара ёсць і яшчэ адзін клопат. Зусім нядаўна ён заняўся збіраннем гістарычных звестак пра касцёл. Усе дакументы, а яны захаваліся з XVI стагоддзя, ён класіфікуе.

У парафіяльных кнігах гаворыцца, што ў XVI стагоддзі быў пабудаваны драўляны касцёл пад тытулам Святога Іаана Хрысціцеля. У ім былі прыгожыя карціны, посуд для адпраўлення набажэнстваў. Ён доўга існаваў, але не змяшчаў усіх жадаючых. 1 тады ў 1899 годзе пачалі будаваць новы. Будаўніцтвам кіраваў ксёндз **Улад Альшэўскі**. Чырвоную цэглу для яго выпальвалі ў Гервятах. Будаўніцтва завяршылі хутка, праз чатыры гады.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*



*Сёння касцёл Святой Тройцы мае даўжыню 57 метраў, шырыню ў крыжы 28 метраў, 2 ярусы вокнаў, якіх налічваецца 50, вежы рознага калібру. Усярэдзіне тры алтары. Галоўны - Святой Тройцы - выраблены з дуба, бакавыя - Святога Юрыя і Маці Божай Міласэрнай - з каменя.*

ФОТА ІВАНА ПЕТРЫКА.

КУЛЬТУРА

**МЯДЗЕЛ.** Вечар-сустрэча з былымі воінамі "Афганістан - боль мой" адбыўся 15 лютага ў актавай зале СШ №1. Удзельнікі наведалі магілы загінуўшых у Афганістане. На вечары кожны запрошаны атрымаў падарунак і віншаванні з надыходзячым Днём абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Быў падняты "афганскі" тост: за тых, хто прысутнічае, за маці, што нарадзіла, і за тых, хаго, на вялікі жаль, няма.

○ Вынікі агляду мастацкай самадзейнасці раёна ў рамках фестывалю "Беларусь - мая песня" падвядзе 22 лютага заключны канцэрт, на які збяруцца 200 удзельнікаў. Канцэрт прысвечаны Дню абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

**ВАЛОЖЫН.** На ўрачысты вечар да Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь запрошаныя дэлегацыі з Масквы і Омска.

З канцэртнай праграмай выступяць маскоўская эстрадная група "Каскад" і лаўрэат міжнароднага конкурсу эстраднай песні, дыпламант конкурсу "Славянскі базар" **Стэла.**

**МАЛАДЗЕЧНА.** 26 лютага ў канцэртнай зале музычнага вучылішча адбудзецца канцэрт камернага ансамбля "Класік-авангард".

У складзе калектыву, якім кіруе **Уладзімір Байдаў**, 16 лепшых у Беларусі музыкантаў, дзе кожны выканаўца - саліст.

У праграме творы ад старадаўняй класічнай музыкі да авангарда.

○ Падлеткавым клубам ПТВ-21 10 лютага праведзены конкурс "Містэр Ікс".

○ **Алеся Кульша**, навучэнка ПТВ-21 заняла другое месца у гарадскім конкурсе беларускай эстраднай песні.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

**АШМЯНЫ.** Прыз глядацкіх сімпатый атрымаў ансамбль цыганскай песні "Джана рома". Адзначаная фальклорная інструментальная група з вёскі Буняны. Яе ўдзельнікі найбольш вопытныя з усіх, хто сабраўся на рэгіянальны фестываль самадзейных калектываў "Беларусь - мая песня". Некаторым з іх 80 гадоў.

Фестываль праходзіў у вёсцы Малі на Астравеччыне. У тамтэйшым ДК, акрамя гаспадароў, ашмянцаў, выступалі артысты і са Смаргоні.

*Ксенія ШЫЛІНА.*

## Ёсць у міліцыі "Прымакі"

*АСТРАВЕЦ. Днямі на фестываль міліцэйскіх мастацкіх калектываў "Беларусь - мая песня", які пройдзе ў Мінску, накіраваліся і мясцовыя міліцыянеры.*

Каторы год тут створана і дзейнічае мужчынская вакальная група "Прымакі", добра вядомая не толькі ў Астраўцы, але і за яго межамі. Прынамсі, летась на падобным фестывалі яны сталі лаўрэатамі. Не горш, як зазначыў перад ад'ездам намеснік начальніка РАУС **Уладзімір Кабрынец**, плануюць выступіць і на гэты раз. Тым больш, што мастацкі кіраўнік "Прымакоў" **Аляксандр Альховік** падрыхтаваў спецыяльна для фестывалю новую песню.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

Адным абзацам

МІНСК. Супрацоўнікі камітэта Дзяржкантролю РБ праверылі некаторыя бакі фінансава-гаспадарчай дзейнасці Маладзечанскага рэфрыжэратарнага дэпо. Чакаецца, што па выніках праверкі прадпрыемству будуць прад'яўлены штрафныя санкцыі ў памеры 2,7 млрд. рублёў.

*Аддзел інфармацыі.*

ЖАДАННІ

# Міліцыя чакае новы будынак. Вернікі не супраць мець стары

*АСТРАВЕЦ. Каторы год ідзе будаўніцтва новага адміністрацыйнага будынка для міліцыі, і здзіўіць гэтым нікога немагчыма. Ён даўно быў бы ўзведзены, каб там ішло сапраўднае будаўніцтва.*

Справа ўскладняецца адсутнасцю фінансавання з боку міністэрства ўнутраных спраў. Нават сёлета, па словах начальніка Астравецкага РАУС **Яраслава Халецкага**, наўрад ці будуць выдзеленыя грошы для завяршэння будаўніцтва. Таму пакуль што работнікі міліцыі не могуць шыкаваць па адным у новых кабінетах, а вымушаныя месціцца па 2-3 у старых.

Цікава, што цяперашні будынак міліцыі некаторы час таму належаў да плябаніі касцёла Коста і Дзям'яна. Цяпер вернікі выказваюць жаданне атрымаць будынак назад.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ДЫНАСТЫІ

# Улюбёная ў сваю справу

*МЯДЗЕЛ. Чвэрць стагоддзя таму маладая дзяўчына Галіна Тумеля з вёскі Олься, што на Пастаўшчыне, стала медработнікам. З гэтай колькасці год дваццаць нязменна працуе загадчыцай ФАПа ў вёсцы Чараўкі.*

Не бывае таго дня, каб да яе не звярталіся па дапамогу вяскоўцы, да пятнаццацівасемнаццаці чалавек. Нават малое недамаганне кіруе чалавека да сваёй "дакторкі", як любоўна яе называюць і маладыя, і старыя жыхары вёсак калгаса "Нарач". На ўчастку Галіны больш за 100 дзяцей да 15-гадовага ўзросту. Яны - асаблівы клопат сельскага медыка.

Першыя пацыенты Галіны Тумелі выраслі, маюць сем'і. Цяпер звяртаюцца сюды па дапамогу для сваіх сыноў і дачушак. У ФАПе ёсць апаратура для інгаляцый, прагравання, іншых працэдур.

У самой Галіны дачка **Марына** вырасла тут, у Нарачанскім краі, скончыла Барысаўскае медвучылішча, працуе медсястрой у Мядзельскай раённай бальніцы.

Галіна Тумеля ў 1986 годзе ўзнагароджаная медалём "За працоўную доблесць", мае розныя адзнакі ад раённых, абласных і рэспубліканскіх органаў ахоўы здароўя. Чараўкоўскі ФАП - узорны на ўсіх адносінах, не раз на ім праводзіліся семінары, конкурсы-агляды.

У раён нядаўна прыйшла вельмі добрая вестка пра сельскага медыка. У канцы 1997 года на базе Мінскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы праводзіўся конкурс-агляд на лепшага фельчара. Трэба было прадставіць санітарны бюлетэнь, выступіць з цікавым прывітаннем, прадэманстраваць адмысловыя кандытарскія вырабы ды розныя прысмакі, і галоўнае: адказаць на пытанне, звязанае з фельчарскай прафесіяй, дэманстраваць аказанне першай медыцынскай дапамогі.

Ад кожнага раёна ўдзельнічалі ў конкурсе фельчары. Галіна выйшла пераможцай: узнагароджаная фотаапаратам "Кодак", стужкай пераможцы. А да ўсяго атрымала першую кваліфікацыйную катэгорыю.

Усе віншавалі з поспехам на конкурсе. А найбольш - вяскоўцы, пра здароўе якіх клапоціцца пасапраўдным.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*

